*—Людзьмі звацца!*
*Янка Купала*

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
10
ЛІПЕНЯ
1992 г.
№ 28 (3646)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ — 50 кап.
(Па падпісцы — 10 кап.)





Розна бывала. Але — з'явіўся тэатр. Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра «Зніч», натхнёны, увасоблены, выпакутаваны актрысай Галінай Дзягілевай (яе вы бачыце на здымку), распачаты спектаклем «Белы сон» паводле «Споведзі» Ларысы Геніюш. Колькі банальных слоў (кшталту «А ці ж маглі мы марыць, ці ж маглі спадзявацца!») знойдзецца для гэтай праявы, і самым небанальным можа стацца хіба адно: Дзягілева, Геніюш — час так хутка сцісне чалавечыя ўяўленні пра сябе, што Дзягілева з Геніюш зробяцца ледзь не аднагодкамі-сучасніцамі. Так што адна мусіць прамовіць вуснамі другой:

Розна бывае.
І зноў неспакой.
Нялёгка мне, не пярэчу.
Долю бяру жаночай рукой,
нібы каня пад вуздэчку.

...Праскачу? Утрымаю? Не здолею?

Фота У. ПАНАДЫ

ад таго, на якой мове яна створаная. Гэта дазволіць атрымліваць значны рэпертуар кінавідэапрадукцыі еўрапейскіх краінаў, поўнасцю выкарыстоўваць спадарожнікавую сістэму тэлебачання, абсталяванне якой мае Беларускі тэлерадыёцэнтр.

7. Дзеля якаснага тэхнічнага абслугоўвання нацыянальных тэле- і радыёпраграм, з мэтай больш поўнага інфармацыйнага забеспячэння насельніцтва Беларусі прызнаецца мэтазгодным перавесці тэле- і радыёперадатчыкі з падпарадкавання Міністэрству сувязі ў распараджэнне Міністэрства інфармацыі.

8. За апошнія некалькі гадоў беларуская літаратурная мова зазнала пэўнае разняволенне ад штучных, надуманых установак афіцыёзнага мовазнаўства, накіраваных на «збліжэнне» і «зліццё» беларускай мовы з рускай. Тым не менш мова, якая гучыць па радыё і тэлебачанні, выкарыстоўваецца ў часопісах і газетах, скрозь засмечаная непатрэбнымі запазычаннямі і калькамі. Культура мовы журналістаў як правіла вельмі нізкая. Удзельнікі «круглага стала» выказаліся за правядзенне неадкладнай пераатэстацыі працаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі дзеля высвятлення прафесійнай прыдатнасці на аснове валодання беларускай моваю.

## СІМВАЛЫ— НЕ СВАВОЛЬСТВА

Як мы ўжо паведамлялі, рашэннем Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь утворана Камісія па забеспячэнні адзінай палітыкі выкарыстання дзяржаўных сімвалаў Рэспублікі Беларусь. У задачы камісіі ўваходзіць забеспячэнне кантролю за выкарыстаннем дзяржаўных сімвалаў рэспублікі пры распрацоўцы дзяржаўных узнагарод, элементаў формы адзення вайскоўцаў, міліцыі, супрацоўнікаў мытнай службы і служачых іншых міністэрстваў і ведамстваў.

У пастанове прапануецца дзяржаўным органам, арганізацыям і ўстановам прадстаўляць на заключэнне камісіі неабходныя матэрыялы па пытаннях выкарыстання дзяржаўных сімвалаў і распрацоўкі іх элементаў.

Старшынёй Камісіі па забеспячэнні адзінай палітыкі выкарыстання дзяржаўных сімвалаў прызначаны А. Трусаў, у складзе камісіі таксама В. Галубеў, А. Грыцкевіч, Л. Зданевіч, В. Казлоў, А. Кісялёў, П. Крэчка, Я. Кулік, М. Купава, А. Марачкін, Л. Талбузін, М. Раманюк, А. Цітоў і іншыя.

## Прайшла памылка...

**У мінулым нумары «ЛіМа» была надрукавана нататка «Герб, сцяг, гімн», якая інфармавала чытачоў аб апошнім туры конкурсу на Дзяржаўны гімн Рэспублікі Беларусь. У публікацыі прыгадваліся між іншым (у якасці аналагаў) гімны Францыі і Польшчы. І тут, на жаль, прайшла памылка: у гімне Польшчы няма слоў, якія прыводзіць аўтар нататкі.**

**Ёсць патрэба растлумачыць прычыны памылкі. Мне неаднаразова даводзілася чуць, як мясцовыя «палякі», распаліўшыся патрыятычнымі пачуццямі спявалі: «Ешчэ Польска не згінэла, покуль мы жывемо, Ешчэ вудка не скіснэла, яку мы півэмо...» — з поўнай упэўненасцю, што яны спяваюць дзяржаўны гімн Польшчы.**

**Адным словам, стаўшы ахвярай уласнай даверлівасці, я ў сваю чаргу ўвёў у зман чытачоў, у чым прашу, шаноўнае спадарства, мне прабачыць. Таксама маю падзякаваць амбасадора Польшчы на Беларусі спадарыню Эльжбету Смулэк, якая заўважыла памылку.**

**П. ВАСІЛЕЎСКІ.**

**110-я ЎГОДКІ Я. КУПАЛЫ**

# Урачыстасці ў Купалавым тэатры...

Па традыцыі юбілеі не абыходзяцца без урачыстага вечара. Па той жа самай традыцыі юбілеі, якія становяцца падзеяй у нацыянальным жыцці, ладзяцца ў Мінску, у Дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы. 110-я ўгодкі самога народнага песняра адзначаны былі таксама тут і грэшна было б, калі б недзе ў іншым месцы.

Адчуванне ўрачыстасці пачалося ўжо з таго моманту, як да пачатку пасяджэння дзяўчаты ў нацыянальных касцюмах сустракалі тых, хто завітваў у тэатр. Дарэчы, жадаючых было вельмі і вельмі шмат і, на жаль, далёка не ўсе змаглі папрысутнічаць на ўрачыстасцях.

Гучалі гуслі, якія так любіў незабыўны Купала. Прадаваліся нацыянальныя сувеніры, кнігі. І паўсюдна чулася жывая беларуская гаворка, тая, вабнасць якой ён адчуў з самага нараджэння і якой даў другое жыццё ў сваіх выдатных, непаўторных творах, прасякнутых любасцю да роднага краю, напоўненых глыбокім роздумам аб лёсе беларусаў, лёсе Бацькаўшчыны.

Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Васіль Зуёнак, старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па культуры Ніл Гілевіч, міністр культуры Рэспублікі Беларусь Яўген Вайтовіч, старэйшына беларускай літаратуры Максім Лужанін, міністр замежных спраў Пётр Краўчанка, член-карэспандэнт Беларускай акадэміі навук, аўтар кнігі «Янка Купала» Алег Лойка, галоўны рэдактар часопіса «Полымя» Сяргей Законнікаў дапамаглі прысутным яшчэ раз перагарнуць шмат якія старонкі жыцця і творчасці песняра, лепш зразумець гэтую адну з самых трагічных постацяў не толькі ў літаратуры беларускага народа, а і ўсіх славянскіх народаў, наблізіцца да Купалы, а значыць— наблізіцца да самой духоўнасці, усведамлення кожным нацыянальнай годнасці.

Працягам гэтай урачыстай і такой неабходнай сёння гаворкі стаў спектакль «Тутэйшыя» ў пастаноўцы купалаўцаў. Спектакль надзіва надзённы. Бо тутэйшаства, з якім так настойліва змагаўся Купала-пісьменнік, Купала-грамадзянін і Купала-чалавек, не так лёгка, як таго хацелася б, знікае. Разам з тым набываюць усё больш і больш упэўненасці, сілы па-сапраўднаму адраджэнскія настроі, на што таксама звярнуў пясняр увагу ў сваім творы, што, на жаль, так доўга знаходзіўся ў запасніках літаратуры.

# ...А ў Вязынцы—свята

Свята паэзіі, прысвечанае дню нараджэння песняра. Чарговае. Першае адбылося тады, калі адзначалася 90-годдзе песняра. Цяперашняе наладжана ў сувязі са 110-мі ўгодкамі...

Знаёмыя пагоркі, гэткія ж зялёныя і маляўнічыя як заўсёды. Знаёмы партрэт песняра над імправізаванай сцэнай. І тыя ж людзі — улюбёныя ў паэзію, у свой край. Тыя і разам з тым іншыя. Бо — іншы цяпер час. Час вызначыў і назву свята — «Жыві, Беларусь!» І ўжо не пра апяванне Купалам сацыялістычнай явы гаварылася са сцэны, не пра тое, як услаўляў ён дружбу народаў, а пра тое, як пясняр непакоіўся аб заўтрашнім дні Бацькаўшчыны, як хацеў бачыць Беларусь вольнай і незалежнай дзяржавай, як змагаўся супраць тых, хто занядбаў усё беларускае, апынуўся ў сне нацыянальнага нігілізму.

Яшчэ адна акалічнасць наклала адбітак на свята — пяцьдзесят гадоў, як Купалы няма разам з намі. Сама па сабе дата тужлівая, горкая. Але ўдвая гарчэйшая ад таго, што загадка трагічнай Купалавай смерці так і застаецца загадкай...

Пра сувязь гэтых дзвюх дат нагадаў, адкрываючы свята, намеснік старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімір Паўлаў. Купала і час, Купала і эпоха — так у некалькіх словах можна перадаць сэнс выступлення Ніла Гілевіча. Ён гаварыў аб важнасці запаветаў народнага песняра. Калі б мы часцей прыслухоўваліся да яго голасу, калі б мы жылі так, як завяшчаў Купала, мы б жылі куды лепш і даўно адчувалі сябе свабоднымі, незалежнымі. Менавіта Купала вучыў нас займець свой пасад, вучыў людзьмі звацца. Звяртаючыся да прысутных, прамоўца зазначыў: «Часцей бярыце ў рукі кнігі Купалы, знаходзьце там найвышэйшую мудрасць жыцця!»

Н. Гілевіч прачытаў свой верш «Трывайма, браты!», напоўнены па сутнасці тымі ж, як і ў Купалы, матывамі еднасці, нацыянальнай згоды, неабходнасці згуртавацца дзеля агульных спраў, клопатаў, у імя Бацькаўшчыны.

Ля мікрафона — Сяргей Грахоўскі. Ён чытае свой новы верш «Вячэрняя малітва». І калі паэт прачытаў:

**Прарока нам Бог дараваў**
**на Купалле,**
**Каб ён запытаўся: «А хто**
**там ідзе?»,**

прысутныя дружна адказалі: «Беларусы!»

Пра нацыянальнае Адраджэнне, пра ўзвышэнне духу беларусаў — і новы верш Петруся Макаля «Уваскрэсні»:

**Голасам плуга і песні**
**Узважыць сябе прымусь, —**
**Малю цябе, уваскрэсні,**
**Матуля мая, Беларусь!**

Галіна Каржанеўская знаёміць з вершам «Дзірван» — таксама новым, напісаным перад святам. Твор пра тое ж самае — пра пазбаўленне ўсіх гэтых «дзірваноў», што губілі ўсё жывое, нацыянальнае ў нашым жыцці.

Юрась Свірка ж услаўляе вечнае хараство жаночай красы, як пачатак і несупыннасць самога жыцця—чытае верш «Не адцвітай...»

«Слова пра годнасць» — паэтычны маналог Сяргея Законнікава. Трывожна-засяроджаны і поклічна-заклікальны, роздумна-пранікнёны і прасветлена-ўзвышаны. Пра неабходнасць аб'яднацца, «каб разам трымацца каранёў, што пасобяць лёс зберагчы», пра тое, каб ніколі «кліч не моўкнуў — жыве Беларусь!»

Для Леаніда Дранько-Майсюка Янка Купала — гэта тыя два словы, якія ўтвараюць залаты радок нашай паэзіі, паэзія Купалы для яго пачынаецца нават не з вершаў, а менавіта з гэтых двух слоў — Янка Купала. Л. Дранько-Майсюк чытае свае два любімыя вершы: Купалаў верш — «На купалле» і верш М. Стральцова пра Янку Купалу.

«У старажытныя храмы мовы» вяртае ўсіх Генадзь Тумаш, «у музей Янкі Купалы» — Мечыслаў Шаховіч (яны чытаюць свае аднайменныя вершы).

Трагедыя Купалы — трагедыя ўсіх таленавітых людзей, якіх ніколі не цярпелі ўлады. Нездарма Васіль Зуёнак правёў паралель паміж лёсам нашага песняра і Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна:

**Калі ў вестыбюлі**
**Гасцініцы знатнай «Масква»**
**Хоць раз**
**Вы пачулі**
**У гуле**
**Наезджым**
**Раптоўнае:**
**«А-а!..»**

**То рэха Купалы,**
**Што з Чорнае рэчкі сюды**
**Ад Пушкіна прыблукала,**
**Звязала**
**Іх лёс**
**Праз гады...**

Пасля паэтычных акордаў (на свяце выступілі і паэты Маладзечаншчыны), над зямлёю паплылі народныя мелодыі і песні беларускіх кампазітараў — дэманстравалі сваё майстэрства самадзейныя і прафесіянальныя калектывы і выканаўцы.

Удзельнікі свята мелі магчымасць набыць кнігі (і атрымаць аўтографы аўтараў), пазнаёміцца з экспазіцыяй філіяла Літаратурнага музея Янкі Купалы, са стэндамі, што расказваюць пра жыццё і творчасць песняра...

**НАШ КАР.**





У час свята ў Вязынцы

Фота У. ПАНАДЫ.

# Манета, прысвечаная Купалу

Дай божа, дажывём і да той часіны, калі юбілейныя манеты, прысвечаныя знакамітым людзям Бацькаўшчыны, пачне выпускаць Банк Рэспублікі Беларусь. Пакуль што такое права, як вядома, у Цэнтральнага банка Расійскай Федэрацыі. Балазе, права гэтае не супярэчыць абавязку, дадзенаму ранейшым банкам колішняга Савецкага Саюза, які планаваў выпусціць юбілейныя рублі, прысвечаныя 110-годдзю з дня нараджэння народных песняроў беларускага народа Янкі Купалы і Якуба Коласа.

Купалаўскі рубель толькі што з'явіўся. Гэта манета, выробленая з медна-нікелевага сплаву белага колеру дыяметрам 31 міліметр. Рэльефнае профільнае адлюстраванне песняра размешчана на адным баку рубля. Тут жа па баках партрэта стаяць даты «1882» і «1942», а ўнізе на фоне арнаменту надпіс: «Янка Купала».

А на другім—выява купалаў Пакроўскага сабора на фоне Спаскай вежы і двухгаловага арла, а таксама таварны знак «ЛМД». Што знак ёсць — зразумела, а астатняе...

Ды і прыдбаюць юбілейны рубель далёка не ўсе жадаючыя. Нават не з прычыны малога тыражу яго. Проста будзе ён прадавацца па калекцыйным кошце.

**НАШ КАР.**

# «Падстаў для пракурорскага ўмяшання—няма...»

## Гісторыя аднаго жыцця

**Пракуратура СССР**
**Пракуратура Маскоўскага раёна г. Брэста. 5.7.90 г.**
**г. Брэст, вул. Маскоўская, 90, кв. 27. Гаражанскаму Ю. Ф.**

**Ваша скарга па пытанні неабгрунтаванага звальнення з пасады дацэнта кафедры жалезабетонных канструкцый Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута разгледжана.**

**Устаноўлена, што ў 1977 годзе загадам па інстытуце № 587 ад 2.7.77 года была створана камісія для разгляду пытання аб адпаведнасці вас займаемай пасадзе.**

**Згодна з высновамі, да якіх прыйшла камісія, вы да выканання вучэбных даручэнняў адносіліся фармальна, мелі месца выпадкі нядобрасумленнага выканання абавязкаў.**

**Акрамя гэтага, было ўстаноўлена, што вамі перадаваліся іншым асобам рукапісныя матэрыялы антысавецкага зместу, што несумяшчальна з выкладчыцкай дзейнасцю.**

**На пасяджэнні Савета Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута 6.7.77 г. было прынята рашэнне аб звальненні вас з займаемай пасады і загадам рэктара інстытута № 608 ад 7.7.77 г. вы былі звольнены па арт. 254 п. за амаральны ўчынак, зроблены работнікам, які выконвае выхаваўчыя функцыі.**

**Па паведамленні адміністрацыі інстытута забраныя ў вас ў 1977 г. сшыткі з вашымі запісамі не захаваліся.**

**У сувязі з выкладзеным, падстаў для аднаўлення вас на ранейшай працы і прыняцця мер пракурорскага рэагавання не маецца.**

**Пракурор раёна, малодшы саветнік юстыцыі В. В. Амельянюк**

**Пракуратура СССР,**
**Пракуратура Маскоўскага раёна г. Брэста 21.1.91 г.**
**г. Брэст, вул. Маскоўская, д. 90, кв. 27. Паповай Л. А.**

**Пракуратурай раёна разгледжана ваша заява аб быццам бы незаконным звальненні з пасады дацэнта кафедры жалезабетонных канструкцый Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута ў 1977 г. вашага мужа Гаражанскага Ю. Ф.**

**Пракуратурай раёна праводзілася праверка па дадзеным пытанні. Падстаў для аднаўлення яго на працы і прыняцця мер пракурорскага рэагавання не маецца, пра што было паведамлена Гаражанскаму Ю. Ф. падрабязна ў нашым адказе ад 5.7.90 г.**

**Пракурор раёна, малодшы саветнік юстыцыі В. В. Амельянюк.**

**Пракуратура Рэспублікі Беларусь**
**Рэктару Брэсцкага політэхнічнага інстытута.**

**Загадам рэктара Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута (цяпер політэхнічнага інстытута) ад 7.7.77 г. № 608 па п. 3 арт. 254 КЗОТ БССР быў вызвалены ад пасады дацэнта кафедры жалезабетонных канструкцый Гаражанскі Ю. Ф. за неадпаведныя з працай выкладчыка амаральныя, антыграмадскія і антыпатрыятычныя дзеянні, якія былі выражаны ў складанні і перадачы іншым асобам матэрыялаў антысавецкага і паклёпніцкага ў адносінах да савецкай рэчаіснасці, КПСС і яго кіраўніцтва зместу.**

**Гэты загад з'яўляецца незаконным і павінен быць адменены, зыходзячы з наступнага: Ю. Ф. Гаражанскі звольнены з працы за тое, што ў сваіх дзённіках выказваў думкі аб палітычнай сітуацыі ў краіне, даваў ацэнку дзейнасці палітычных лідэраў, якія разыходзіліся з афіцыйнай агульнапрынятай догмай аб непаграшымасці сацыялістычнага ладу і яго кіраўніцтва.**

**Прапагандай і агітацыяй, накіраванай на знявагу сацыялістычнага ладу жыцця, дыскрэдытацыю кіраўнікоў дзяржавы, падрыў дзяржаўнага ладу ён не займаўся, не распаўсюджваў свае ідэі іншым спосабам.**

**Свае дзённікі, са слоў Гаражанскага Ю. Ф., ён аддаў на захаванне святару. Якім чынам гэтыя дзённікі трапілі ў рэктарат інстытута, высветліць не ўдалося.**

**Такім чынам, Гаражанскі Ю. Ф. звольнены з працы не за зроблены амаральны ўчынак, а за свае перакананні. Па дзейнічаючым на той час заканадаўстве звальненне з працы за перакананні было недапушчальна. На падставе выкладзенага, кіруючыся арт. 24 Закона аб Пракуратуры СССР, прашу адмяніць загад № 608 ад 7.7.77 г. аб вызваленні Гаражанскага Ю. Ф. ад пасады дацэнта кафедры жалезабетонных вырабаў, аднавіць яго на ранейшай пасадзе з выплатай у адпаведнасці з арт. 218 КЗОТ РБ сярэдняга заробку за 3 месяцы вымушанага прагулу.**

**Пратэст павінен быць разгледжаны не пазней, чым у 10-дзённы тэрмін.**

**Аб прынятым рашэнні прашу мне паведаміць.**

**У. Кандрацьеў, першы намеснік Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь. 4.3.92 г.**

...Ліст Людмілы Арсенаўны Паповай у Брэсцкі абком КПБ быў апрыходаваны там, як сведчыць штамп рэгістрацыі, акурат 19 жніўня 1991 года. Партыйны чыноўнік, які, падзьмухаўшы на штампік, старанна прыклаў яго да верхняга кутка «входящего» ліста, наўрад ці меркаваў, што падобную аперацыю ў гэтых сценах робіць ці не апошні раз.

Я не ведаю, як правялі наступныя тры дні насельнікі шыкоўнага абкомаўскага будынка з яго фінскімі ліфтамі (кожны — бы невялікі ўтульны пакойчык), холамі, абстаўленымі мяккай мэбляй, пругкімі дывановымі дарожкамі ў калідорах, прасторнымі апартаментамі партыйных босаў (усё гэта я пабачыў, наведаўшы Брэсцкі гарсавет, які цяпер тут месціцца), але ёсць у мяне падставы меркаваць, што большасць з іх жыла надзеяй на поспех крамлёўскіх змоўшчыкаў.

Ды надышло 21 жніўня, потым прайшло яшчэ некалькі дзён — Вярхоўны Савет рэспублікі прыняў пастанову аб прыпыненні дзейнасці КПБ-КПСС, і партыйныя функцыянеры пачалі разбягацца хто куды, перад гэтым знішчыўшы сакрэтную дакументацыю, а тое, што, на іх думку, не выдавала партыйных тайнаў, проста з макулатурай выкінуўшы на сметнік. Там адзін з чытачоў «ЛіМа» і знайшоў ліст Л. Паповай, які і даслаў у рэдакцыю.

Так я даведаўся пра гісторыю Юрыя Фёдаравіча Гаражанскага, былога дацэнта Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута, звольненага адтуль фактычна з «воўчым білетам», бо яго, кандыдата тэхнічных навук, прызнанага спецыяліста ў галіне жалезабетонных канструкцый, маючага шэраг аўтарскіх пасведчанняў, валодаючага некалькімі еўрапейскімі мовамі, па першым часе не бралі ў Брэсце нават грузчыкам. Праўда, з цягам часу Гаражанскаму ўсё-такі ўдалося ўладкавацца на працу... дворнікам пры Свята-Сімяонаўскім праваслаўным саборы ў Брэсце. Так што многія супрацоўнікі інстытута ў любы момант маглі дазволіць сабе мець асалоду пабачыць на царкоўным двары (а сабор, дарэчы, знаходзіцца на той жа Маскоўскай вуліцы, што і інстытут) з мятлой у руках свайго былога калегу, абылганага і зняважанага імі з неверагоднай жорсткасцю.

Мы некалькі гадзін гутарылі з Юрыем Фёдаравічам у маім гасцінічным нумары, і перада мной прайшло жыццё чалавека, на маю думку, неардынарнага, валявога і, я б сказаў, рашучага і смелага, бо толькі адзінкі ў той змрочны час брэжнеўскай стагнацыі і ўсясілля КДБ змаглі кінуць выклік «совковой» двайной маралі грамадства, з яго пануючымі ідэалагічнымі стэрэатыпамі, маной, поўным адтаржэннем любога іншадумства. І сістэма не даравала яму «ерасі», прыдавіўшы ўсім сваім жалезабетонным цяжарам.

Юрый Фёдаравіч сказаў, што ацалець душой і целам у абставінах, дзе ламаліся, а то і гінулі многія, што падымалі свой голас супраць сістэмы, яму дапамагла вера ў Бога. Перада мной сядзеў чалавек, кажучы па-расейску, **истово верующий** у дагматы праваслаўнай царквы, які бачыў у веры ў Бога адзіны сродак духоўнага адраджэння чалавецтва. У нейкі момант ён спытае мяне, ці падзяляю я гэтую яго думку. Я адкажу, што, будучы атэістам, паважаю права кожнага чалавека на сваё светаўспрыманне. Юрый Фёдаравіч у адказ сумна ўсміхнуўся...

Мне зараз няцяжка рэканструяваць размовы, што вяліся сярод выкладчыцкага калектыву БІБІ напярэдадні «изгнания» адтуль Юрыя Фёдаравіча Гаражанскага. «Калега, вы чулі, нашага Гаражанскага бачылі ў царкве?» — «А я асабліва і не здзівіўся, нешта ў ім заўсёды было непрыемнае». — «І як гэтаму цемрашалу давяраць студэнтаў!»

Тым часам набліжаўся тэрмін перавыбараў Гаражанскага на пасадзе дацэнта кафедры. Увогуле, руцінная падзея, якая пры высокай прафесійнай кваліфікацыі Юрыя Фёдаравіча ў любы іншы момант ніякіх праблем для яго не склала б, цяпер абярнулася пагрозай звальнення. На свет нараджаецца наступны дакумент, пазначаны 29 красавіка 1977 года: «Кафедра жалезабетонных канструкцый адзначае высокую спецыяльную і метадычную падрыхтоўку Гаражанскага, але лічыць, што ў цяперашні час гэтага зусім недастаткова для выкладання ў вышэйшай школе, неабходная яшчэ высокая ідэйная і палітычная перакананасць... Кафедра лічыць, што Ю. Гаражанскі не можа быць выкарыстаны ў вучэбна-выхаваўчай рабоце».

Але, як аказалася, справа была не толькі ў рэлігійных перакананнях Гаражанскага...

Тут, у Брэсце, я пазнаёміўся і з Людмілай Арсенаўнай Паповай, жонкай Юрыя Фёдаравіча, якая тады працавала старшым выкладчыкам у тым жа інстытуце. «Недзе ў канцы чэрвеня 1977 года да нас на кафедру зайшоў прадстаўнік парткома інстытута і сказаў, што ўсім нам у абавязковым парадку трэба зараз з'явіцца на адкрыты партыйны сход інстытута. Муж мой у той дзень быў вольны ад лекцый і сядзеў дома з дзецьмі — у нас двое сыноў: старэйшаму тады было дзесяць, малодшаму пяць гадоў.

Сход адбываўся ў актавай зале. Помню, села ў першым радзе. Зала паўнюткая. Пачынаецца сход. Слова бярэ рэктар інстытута Белагорскі і літаральна адразу ашарашвае публіку, — аказваецца, у нашай навучальнай установе выкрыты вораг народа, злосны антысаветчык, палітычны дысідэнт, агент міжнароднага імперыялізму Гаражанскі, які яшчэ і збіраецца збегчы за мяжу. Пра ўсё гэта, маўляў, стала вядома з яго дзённіка, які трапіў у рэктарат. Узяўшы са стала сшытак, Белагорскі пачаў зачытваць нейкія вытрымкі, у якіх Юрый Фёдаравіч выкладаў свае думкі аб партыі, Леніне, савецкай сістэме. Не пасаромеўся прамоўца зачытаць і дзённікавыя запісы чыста інтымнага, сямейнага плана — выказванні дзяцей, мае словы, характарыстыкі маіх прыяцелек. Можаце ўявіць мой стан падчас гэтага публічнага аўтадафэ! Думала — разарвецца сэрца. Але знайшла ў сабе сілы падняцца і пры магільным маўчанні, пад сотні позіркаў, дэманстратыўна спакойна прайшла праз усю залу да дзвярэй... Не помню, як даехала да дому. У роспачы крыкнула Юрыю Фёдаравічу: «Што ты нарабіў! Нам цяпер трэба ўцякаць з Брэста куды вочы глядзяць!» Ён збялеў тварам, пачаў пытацца, што здарылася. Я расказала яму пра ўсё, што адбылося, пра дзённік. «Гэтага не можа быць, — пачаў ён пярэчыць, ты ж ведаеш, каму я аддаў свае запісы на захаванне...» Я пачала пераказваць пачутае. Гаражанскі змоўк, панурыўся і, здаецца, адразу пастарэў на дзесяць гадоў»...

Неўзабаве Людмілу Арсенаўну, па яе словах, выклікаў супрацоўнік КДБ, які курыраваў іх інстытут. Пачаў здалёк — чаму яны з мужам прапускалі амаль усе палітзаняткі, не выпісвалі «Правды»... Папова адказала, што заняткі прапускаюць, бо няма з кім пакінуць малых дзяцей, а што датычыць «Правды», дык яны выпісваюць іншыя газеты. Гэта было своеасаблівай прэлюдыяй, потым «куратар» пачаў цікавіцца колам знаёмых Гаражанскага, якую літаратуру ён чытае, ці слухае замежныя радыёгаласы і г. д.

«Адным словам, — працягвала Людміла Арсенаўна, — я апынулася ў цэнтры нейкай скандальнай увагі. Што я толькі тады ні пачула—і што мне трэба тэрмінова развесціся з мужам, каб вывесці з пад яго ўплыву нашых дзяцей (так мне раіў прарэктар інстытута Андрэйкаў), і што я павінна дзякаваць лёсу, што зараз не трыццаць сёмы год. «Ад вас бы тады засталося адно мокрае месца», — сказаў мне аднойчы сакратар парткома Цеадаровіч».

Скончылася ўсё тым, што Папову, якая выкладала тэарэтычную механіку, звольнілі па «скарачэнні штатаў». Яна таксама доўгі час не магла ўладкавацца на працу, пакуль, нарэшце, не ўзялі яе майстрам вытворчага навучання ў ПТВ.

Тым адкрытым партыйным сходам «выкрыццё» Гаражанскага не скончылася. Яму было суджана «испить чашу» зняваг і здзекаў да канца.

Майму калегу з газеты «Вечерний Брест» Сяргею Лаўрову ўдалося знайсці пратакол пасяджэння Савета інстытута ад 6 ліпеня 1977 года з парадкам дня: «Аб адпаведнасці займаемай пасады дацэнта Гаражанскага Ю. Ф.», які ён выкарыстаў у сваім артыкуле «Грехопадение Юрия Горожанского» («ВБ», № 13, 1992 г.). Не буду ўслед за «Вечерним Брестом» паўтараць прозвішчы прамоўцаў, якія палівалі брудам Юрыя Фёдаравіча, са скуры вылузваючыся, каб паказаць сваю вернападданасць уладзе, хоць і сумняваюся, што публікацыя ў гарадской газеце стала для іх урокам (у гэтым я пастараюся пераканаць чытача крыху ніжэй). Не называць прозвішчы яго крыўдзіцеляў мяне папрасіў Юрый Фёдаравіч, які сказаў, што як хрысціянін дараваў ім.

І ўсё-такі мне вельмі хацелася б, каб чытач меў уяўленне аб той размове на Савеце інстытута, размове вельмі характэрнай для таго часу, як і аб «совковой» псіхалогіі, якая, на жаль, аказалася вельмі жывучай.

Вось некалькі вытрымак з пратакола.

**А. Я. — У сваім дзённіку Гаражанскі паклёпнічае на савецкую ўладу, на камуністычную партыю, яе правадыра Уладзіміра Ільіча Леніна. Мала таго, што ён сам апусціўся да адкрытага антысаветчыка, ён яшчэ і сваіх дзяцей выхоўвае ў такім жа духу. Не можа такі чалавек быць выхавацелем савецкай моладзі.**

**В. Р. — Адзначыў, што Гаражанскі выступае, як антысаветчык і яму нельга давяраць выхаванне студэнтаў і што няма яму месца ў нашым інстытуце.**

**Р. Я. — Асудзіў ідэалогію Гаражанскага, падкрэсліў, што многае з таго, што ён піша ў сваім дзённіку, ужо даўно гавораць па буржуазных радыёстанцыях. Напрыклад, пра Паўліка Марозава.**

**А. Ц. — Падкрэсліў, што ўзнікненне гэтага пытання — факт нашай безадказнасці і страты партыйнай пільнасці. Было ж вядома, што Гаражанскі працяглы час не ўступаў у члены прафсаюза, не ўдзельнічаў у сетцы партыйнай адукацыі і грамадскім жыцці. За злосны паклёп на нашу савецкую рэчаіснасць Гаражанскі заслугоўвае самага строгага асуджэння і рашучых дзеянняў з боку рэктарата.**

«Рашучыя дзеянні» не прымусілі сябе чакаць. Юрый Фёдаравіч быў звольнены з інстытута з такім «сімпатычным» запісам у працоўнай кніжцы: «7.7.77 г. Звольнены з працы па п. 3 арт. 254 КЗОТ БССР за несумяшчальныя з працай выкладчыка амаральныя, антыграмадскія і антыпатрыятычныя дзеянні, якія праявіліся ў складанні і перадачы іншым асобам матэрыялаў антысавецкага і паклёпніцкага ў адносінах да савецкай рэчаіснасці, КПСС і яго кіраўніцтва зместу».

Вось яно, царства крывых люстэрак, дзе ўсё было перавернута дагары нагамі — паняцці аб сумленні, маралі, гонары. Вучоныя мужы, абвінавачваючы Гаражанскага ў амаральным учынку, не разумелі, што не можа быць нічога больш амаральнага, чым чытанне чужога дзённіка, споведзі чалавека перад самім сабой.

Думаю, чытачу даўно карціць спытаць, як усё-такі дзённік Гаражанскага трапіў у інстытут? Гісторыя, скажу я вам, досыць таямнічая. Вось як мне выклалі яе Юрый Фёдаравіч і Людміла Арсенаўна.

Л. Папова: — Недзе ў кастрычніку 1976 года да нас на кватэру зайшоў святар Кобрынскага сабора Яўген Сцяпанавіч Парфянюк — айцец Яўгеній. Ён сказаў, што яго сын займаецца на другім курсе нашага інстытута і мае патрэбу ў рэпетытары па тэарэтычнай механіцы. Дык вось, ці не пагаджуся я пазаймацца з ім. Я адмовілася, спаслаўшыся на недахоп часу, — у мяне вялікая нагрузка ў інстытуце, не кажучы ўжо, што на руках двое малых дзяцей. З таго часу Парфянюк пачаў бываць у нас даволі часта, блізка пазнаёміўшыся і пасябраваўшы з маім мужам.

Ю. Гаражанскі: — Яўгена Сцяпанавіча Парфянюка — айца Яўгенія лічыў сваім блізкім сябрам, ва ўсім спавядаўся яму. Аднойчы паказаў яму свой дзённік, прачытаў некаторыя вытрымкі з яго. Айцец Яўген сказаў, што такія запісы дома трымаць небяспечна. Параіў даць іх яму на захаванне, маўляў, гэта будзе больш надзейна. Я палічыў, што ён мае рацыю,

(Працяг на стар. 12).

**Сяргей ПАНІЗНІК**



# Нарыхтоўчая кантора

«Без той духоўнай культуры, што вырастае з нацыянальных традыцый, наш родны дом такі ж казённа безаблічны, як нарыхтоўчая кантора, і чалавечай душы ў ім няўтульна».
Ніл Гілевіч. 1991 г.

**Не жыву, адно баюся:**
**за «Указам...» зноў «Указ...»**
**Я з Дзяржавы-Беларусі!**
**«Родны кут» дзяржаўны ў нас:**

**Кут-закутак, Край-старонка,—**
**той, што іншым не раўня...**
**Эх, ты, лодка-пласкадонка —**
**беларуса мазгаўня!**

**Пасмяяцца можна ўволю,**
**як мы хвалімся-жывём.**
**Заўтра мы сябе аголім**
**шорсткім венікам-гальнём,—**

**застануцца толькі косткі**
**на шкілет — абы пазнаць:**
**быў такі народзец порсткі,**
**і была ў народа знаць;**

**кіраваць яна умела —**
**давяла да галыша...**
**Знаць і ведаць не хацела:**
**дзе сумленне, дзе душа!**

**...Ёсць пра што мне думаць думу,**
**каб свой век не рассмяшыць.**

**Столькі болю, столькі суму...**
**А калі ж мы будзем жыць!**

**Столькі рознага начыння**
**глотку, рэбры перацяць...**
**Столькі чорнага ў Айчыне**
**роднай, Белай... Чуць мігцяць**

**нашы срэбраныя Словы,**
**залатыя Алтары,**
**і шляхетныя галовы,**
**і шляхечыя двары...**

**Ці ўратуемся ад ліха!**
**Мы ж сябе не пазнаём...**
**Глянь: чарговая «адліга»**
**чуць кранула чарназём...**

**Я з чарнобыльскага мора,**
**а чытаю, як балван:**

**«...нарыхтоўчая кантора**
**перавыканала план!»**

# Звон жалейкі

**Праз пекла іду да раю.**
**Здаецца: не выміраю —**
**і шырыцца светлы круг.**
**Хто сёння сусед і друг!**
**Хто заўтра мне давярае!**
**Зноў чую, як шэпча сцень:**
**«Дзяржаву завеш ты Краем,**
**а Святам — рабочы дзень!»**

**Манюкі — заўсёды зграяй.**
**А я на жалейцы йграю.**
**Самотны жалейкі звон:**
**«Каго Беларус карае:**
**ці Белую Русь, ці Скон!»**

---

**Соф'Я ШАХ**



●

**Якое дачыненне у мяне да хатак,**
**што мільганулі за аўтобусным акном!**
**Але ахопіць смутак, роспач і спагада**
**адным працяглым, невымерным пачуццём.**

**Чужыя — і, аднак, радней за іх не знаю,**
**бы менавіта родам з гэтага сяла.**
**Там вулачка, якую я не забываю,**
**здалося, напрасцяк да поля павяла.**

**Двары, гародчыкі, аціхлыя да болю,**
**гладышкі, што нязменна сохнуць на платах.**
**Акенцы, тоячы і шчасце, і нядолю,**
**так выслухоўваюць, так выглядаюць шлях.**

**А я праехала, я праляцела міма, —**
**не выйшла хоць на ўскрайку хвілю пастаяць...**
**Сівыя хаткі гарапашнае Радзімы,**
**як звыкла вам дзяцей сваіх чакаць!**

**Час такі, не раз абдуманы, апеты,—**
**між цяплом і холадам нямы падзел.**
**Час, калі, бадай, трымаюцца і мэты**
**толькі апантанай сілаю надзей.**

**Кожны год — і ўсё вастрэй ад паўтарэння —**
**абуджаецца замкнёны гэты боль:**
**бачыць, як знікае вольнае квітненне,**
**адчуваць, як блізка немата і золь.**

**І напэўна, не настолькі б цяжкім крыжам**
**на душу падзел мне клаўся векавы,**
**каб не гэтая пакорлівая ціша,**
**каб не гэты водар скошанай травы...**

●

**Самы боль — вось гэтае зацішша,**
**гэтая зацятая туга.**
**Ёю успрымліва ўжо дыша**
**жніўеньская тонкая смуга.**

**Ёю захварэлі невылечна**
**кветкі, травы, следам кроны дрэў,**
**і сцяжыны у маўклівасці адвечнай,**
**і няўлоўны ветравы павеў.**

**Самая складаная часіна,**
**за якую трэба зноў паспець**
**да тугі прыжыцца нейкім чынам.**
**і далей прывычна ўжо хварэць.**

●

**Вось так... І болей літасці ніякай, —**
**ляці у свет, бяссільнае лісцё.**
**У вашых крон зноў зладжана і ярка**
**закончана чарговае жыццё.**

**Чарговае — і кроны гэта помняць.**
**Таму так лёгка адпускаюць вас**
**і жалю асаблівага не тояць,**
**яскрава адчуваючы свой час.**

**Не вы, дык іншая вясной лістота**
**узновіць трапяткі зялёны шум.**
**Паміж слатой і пыльнаю спякотай**
**і радасць зноў паўторыцца, і сум.**

**Маўклівы, шапатлівы, ўсхваляваны, —**
**настрой тае лістоты загучыць.**
**І што ёй да таго, што так аддана**
**вы месца паспяшалі саступіць...**

●

**Заслані душу перацярпеннем**
**ад нападкаў здзеклівага дня, —**
**хай тады кіпіць да знемажэння**
**ўся яго крутая вастрыня.**

**Не адчэпішся ніякім словам.**
**Так ужо здараецца падчас,—**
**злосцю перакруціцца чарговай**
**ды аціхне і на гэты раз.**

**І такім лагодным ды ціхмяным**
**прыхінецца зноўку да душы,**
**быццам і не ён зломураганным**
**распінаў дагэтуль на крыжы.**

●

**Дождж прайшоў — і зноў запелі птушкі,**
**зноў зайграла блікамі лісцё,**
**а душа з цярпеннем папялушкі**
**будняе працягвае жыццё.**

**Славы гаваркой не разумее**
**і значэння ёй не надае,**
**поспех скарыстоўваць свой не ўмее**
**там, дзе зло сляпое існуе.**

**Сутыкнецца з ім безабаронна,**
**паслухмяна прыме на сябе.**
**Ані слоўца супраць, ні праклёну, —**
**толькі больш затоіцца ў журбе.**

**І душы жыццё ўжо не дакажа,**
**нагнятаючы то гнеў, то злосць,**
**што даўно пара ёй стаць інакшай,**
**чым яна на самай справе ёсць.**

---

# ГАНЧАК

Снапок светлых, як лён, валасоў нерухома ляжаў на шэрым, ладна пашытым паліто, а астатнія, акуратна зачэсаныя і сцягнутыя маленькай зашчапкай, хаваліся пад шапкай не зусім жаночага фасону, але гэта не выклікала асаблівых пярэчанняў — цяпер усё модна! Паліто было не выхаднoе, але ў добрым выглядзе: на нагах — зграбненькія мяккія боцікі — па зіме цёплыя: а ў руцэ — дзве сумачкі: адна — скураная — для ўсялякай драбязы, так неабходнай жанчыне, а другая — хатняя — для прадуктаў.

Жанчына стаяла з таго боку, дзе крэслы ў аўтобусе ідуць у адзін рад, трымалася рукой за поручань і амаль нерухома пазірала ў акно, за якім падаў снег, нячутна асядаючы на дамы, на дрэвы, на асфальт, — першы ў гэтым годзе снег, чысты, з халадком, і праз тое незвычайны, — і думкі жанчыны цяклі гэтаксама няспешна і нячутна, як той снег за акном, і душа праз усё гэта не разрывалася ад непазбежных клопатаў, хаця яны нікуды і не зніклі, толькі аддаліліся на момант і зрабіліся нібыта чужымі, а, значыцца, не такімі блізкімі і не такімі турботлівымі, і жанчына, лагодна ўсміхаючыся сама сабе, з лёгкай іроніяй пералічвала іх — так, на ўсякі выпадак — ці не забылася што:

«Танечку ў яслі адвяла — кашаль, дзякуй Богу, прайшоў; талоны на цукар — са мной; завушніцы — падарунак Марусі — у сумачцы... карабочак такі прыгожы, нават аддаваць шкада... а-а, мо некалі і сабе гэткія куплю... Ой, глянь ты, які густы паваліў... Нават дамоў не відаць... Бачыш — умее прырода падарункі сабе рабіць... А мы?.. Усё нейкія клопаты ды клопаты... Хай бы здарылася што...»

— Прабачце, — мужчына, што сядзеў ля акна, склаў газету, схаваў у футарал акуляры і толькі цяпер азірнуўся вакол — убачыў жанчыну, што стаяла побач, — і прыўзняўся: — Сядайце, калі ласка.

— Дзякую, — жанчына трошкі разгубілася, але прыняць прапанову адмовілася: калі не заўважыў адразу, то цяпер ужо не трэба, — але не сказала гэтага і толькі ветліва і крышачку вінавата растлумачыла: — Мне так зручней...

Мужчына спачатку не зразумеў, але потым здагадаўся:

— А-а, снег... — і ўсміхнуўся.

Цёпла і шчыра.

Сняжынка праз вузенькую шчылінку заляцела ў аўтобус і трапіла ёй на шчаку. Нібыта пацалаваў хто знадворку. Чужы, зледзянелы. Памкнулася страсянуць сняжынку, ды спазнілася: на шчасце засталася халаднаватая кропелька.

«Няўжо і шчасце мае во гэтак: завітала на міг — і няма яго... Муж, дзякуй Богу, не п'е... І зарабляе добра... А шчасця — не ведаю... Ці ёсць яно...»

— Вам далёка яшчэ? — мужчына спытаў прыязна і нягучна — так, як пытаюцца толькі ў блізкіх ці даўно знаёмых, — і гэта зусім не спадабалася ёй, але яна не пакрыўдзілася: ці так часта сустрэнеш у транспарце гэткую сардэчнасць і ветлівасць?! — То, можа, сядзеце? — дапытваўся мужчына.

---

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# ВЫВЕЗЛІ Ў КУСТЫ І ЗАСТРЭЛІЛІ

Многае з нашага мінулага заслугоўвае самага суровага асуджэння. Хіба можна чым-небудзь апраўдаць сталінскі генацыд супраць свайго народа? А раскулачванне вёскі, якое прывяло да яе спустошэння? А мэтанакіраваная палітыка на знішчэнне нацыянальных культур? Ох, як многа яшчэ аб гэтым трэба гаварыць! Гаварыць для таго, каб ніколі гэта не паўтарылася.

Але ж нельга перакрэсліваць усё і ўся ў нашай гісторыі, нельга, напрыклад, адмаўляць прызнаны ва ўсім свеце ўклад нашага народа ў барацьбу з фашызмам, нельга кпэцаць дзёгцем па святой памяці народа. А гэта, на вялікі жаль, робіцца.

Яшчэ задоўга да пачатку вайны гітлераўцамі быў дэталёва распрацаваны план знішчэння нашага народа як нацыі, і ажыццяўленне яго пачалося з першых жа дзён акупацыі Беларусі, калі партызанамі яшчэ і не пахла. Прывяду толькі адзін прыклад. У мястэчку Сяліба, што за тры кіламетры ад маёй роднай вёскі Міраслаўкі на Бярэзіншчыне, да вайны жыло нямала яўрэйскіх сем'яў. Дык вось, ужо на другім тыдні пасля акупацыі гітлераўцы выгналі іх з родных хат, а потым і знішчылі. А колькі ў Беларусі было такіх Сялібаў!

Цікава сёння нанава прачытаць даўно абнародаваныя дакументальныя запісы саміх фашыстаў.

Нямецкі салдат Эміль Гольц пісаў у сваім дзённіку аб першых днях знаходжання на беларускай зямлі: «28 чэрвеня. На досвітку мы праехалі Баранавічы. Горад разбураны. Але яшчэ не ўсё зроблена. Па дарозе ад Міра да Стоўбцаў мы размаўлялі з насельніцтвам мовай кулямётаў. Крыкі, стогны, кроў, слёзы і многа трупаў. Ніякага спачування мы не ведалі... Спадзяюся, што хутка сюды прыйдуць атрады СС і зробяць тое, што не паспелі зрабіць мы».

Обер-яфрэйтар Іаганес Гердэр зрабіў наступны запіс у сваім дзённіку: «25 жніўня. Мы кідаем гранаты ў жылыя дамы. Дамы вельмі хутка гараць. Агонь перакідваецца на іншыя хаты. Прыгожае відовішча! Мы спалілі такім чынам ужо вёсак дзесяць. 29 жніўня. У адной вёсцы мы схапілі першых 12 жыхароў і завялі на могілкі. Прымусілі іх капаць сабе магілу. Да славян няма і не можа быць ніякай літасці...»

Згодна з гітлераўскім планам «Ост» 75 працэнтаў беларускага насельніцтва падлягала высяленню (лічы вынішчэнню), астатняя частка — анямечванню і выкарыстанню ў якасці рабоў. Хіба магутныя «газенвагены» (машыны-душагубкі) былі падрыхтаваны, каб паспрыяць адраджэнню беларускай нацыі?

Аб гераічных справах беларускіх партызан і падпольшчыкаў ужо многа гаварылася і пісалася. Іх вялікі ўклад у разгром фашызму знайшоў прызнанне не толькі ў Беларусі, але і далёка за яе межамі. Гэтага не ведае толькі той, хто не хоча ведаць.

І нарэшце пра паліцэйскіх, якіх сёй-той сёння імкнецца залічыць у шэрагі змагароў за інтарэсы беларускага народа. Што ж датычыць мяне, то я меў няшчасце сутыкацца з імі і ў вайну, і пасля вайны. Таму з усёй упэўненасцю магу сцвярджаць: добрыя людзі не ішлі ваяваць супраць свайго народа. З маёй роднай вёскі 40 чалавек пайшлі ў партызаны і толькі адзін — хлопец па мянушцы Абух, які не змог пераадолець у у школе нават шасцікласны рубеж,— падаўся ў паліцыю. У суседняй Сялібе паліцэйскім стаў вядомы на ўсю акругу злодзей Смоляр. Пайшлі ў паліцыю вызваленыя з турмаў крымінальнікі.

Ці трэба гаварыць пра маральнае аблічча гэтых людзей? Прывяду толькі адзін прыклад. Дзесьці ў канцы пяцідзесятых гадоў у Лунінцы, дзе я тады працаваў, судзілі былога паліцэйскага Лахвенскага гарнізона Стрэчня. Пасля вайны ён уцёк ад пакарання, прытаіўся дзесьці ў Сібіры, дзе яго і адшукалі. У якасці сведкі быў выкліканы на суд былы камандзір аддзялення карнікаў Хмара, які ўжо адбыў тэрмін пакарання і таксама атабарыўся дзесьці ў Расіі.

— Скажыце, сведка,—пытаецца ў яго суддзя,— хто забіў дзяцей партызана Кулакоўскага?

— Меншага я застрэліў, а большага Татарыновіч...

(Удакладнім для чытача: меншаму было 3 годзікі, а старэйшаму—5).

— Як гэта адбылося? — пытаецца суддзя.

— Прыехалі мы на хутар... Дзеці былі адны ў хаце, маці збегла... Я сказаў: «Адзявайцеся, дзеткі, паедзем да бацькі...» Вывезлі мы іх у кусты, раздзелі і застрэлілі... Такі быў загад начальства...

Расказвае без асаблівага хвалявання, нібы пра нейкую будзённую справу... Толькі вочы апусціў, каб не бачыць людзей у зале, дзе наўзрыд плакала маці забітых дзяцей...

**Аляксей КАЎКО,**
**заслужаны дзеяч культуры Беларусі,**
**былы партызан 208-га партызанскага палка.**

Параілі пастаралі:
«Давайце адновім гімны!
Тубыльцы, вы так стараліся,
каб найхутчэй загінуць:
па-свойму каб ні радка...»

До! Немата згарае.
Праз пекла іду да раю
ускрайкам мацерыка.

## Скажу я Богу...

Жыву... Іду... Усё далей...
З Зямлёю Неба ліжыцца.
Шчыруе вершык-дуралей.
Класічны ўсё не пішацца.
Адмерана — як знічкі след —
жыццё маё упрэжнае.
На верш даўжэй жыве паэт,
калі жыццё бязмежнае.

...Калісь Пярун уткне багор
ў прыдзвінскі бераг з
лодкамі...

Перасялюся ў родны бор —
і буду разам з продкамі.
Патраплю, думаю, у рай
(у пекле быў, азмрочаны).
Скажу я Богу: «Не карай.
Усе грахі аплочаны
цаной бутэлек, латарэй,
пустымі ганарарамі...
Святымі словамі сагрэй:
сыты я марнатраўнымі.
Пакутнік, пяцігодкі жыў
з ружовымі надзеямі
і беспрасветна даражыў
стограмнымі нядзелямі.
На камунізм глядзеў здаля,
чакаў чынушы міласці.

Цярпеў. Уся мая зямля
цяпер — Зямля Цярпімасці.
Шкада такую пакідаць,
бо захірэе пожанька...
Лепш пачакай раба хаваць:
пакінь— наверсе!— Божанька!»

## Ручнікі Прыдзвіння

Чаруе Прыдзвінне:
дубок пры каліне,
жар-птушка пры кожнай сям'і...
Узоры ў Ядзвінні —
«Каваль», «Берагіня»[1]:
Бог сонца. Прамаці зямлі.

Між небам і долам,
між воблакам, домам
населены родны прасцяг.
Каваль пры рабоце,
і сонца — у поце —
на ноч апускае свой сцяг.
Штандар залаціцца,
каб заўтра — узвіцца
наноў абнадзеіць зямлю.
Жыве «Берагіня» —
зямля не загіне;
Прыдзвінне, якое люблю.
Прыдзвінне шчыруе,
але і гаруе,
баіцца: што будзе, калі
тут памяць асушаць,
і нам не паслужаць
Бог сонца, Прамаці зямлі.
Надзея на ўнукаў:
ідуць без прынукаў
на бераг, дзе сеюць і жнуць.
А Бог ва ўспаміне,—
жыць будзе Прыдзвінне —
і людзі, дасць Бог, зажывуць.

[1] На Прыдзвінскіх ручніках часам замест арнамента вышываюцца выявы чалавечых постацяў.

●

Чытаю ліст — і чую голас твой
у рокаце вясенняй навальніцы.
Мне б да цябе дайсці і
прытуліцца
схіліцца бедалажнай галавой
і папрасіць:
— Здымі мае грахі
з усіх тых паваротак,
раздарожжаў.
Скажы, наколькі я
ужо благі;
скажы, наколькі я яшчэ
харошы...

# Анатоль Кірвель
# АБРАЗКІ



— Не, дзякую!— яна шчыра, ад сэрца ўсміхнулася яму і адчула, як даўно не ўсміхалася так — бесклапотна і лёгка, — як на свята, як на Новы год... І не знайшла, з чым яшчэ параўнаць свой смех... Мо з тым, даўнім, калі Міша, яе муж, а тады проста знаёмы, прызнаўся ёй у каханні, і яна, маладзенькая дзяўчынка, упершыню пачуўшы ад хлопца такія словы, шчасліва смяялася, ледзь не рагатала — ад радасці, — толькі не з гэтых слоў, а з нечага іншага — яна ўжо і не помніць з чаго, — і ўсё баялася, што Міша проста пажартаваў —сказаў ёй так толькі дзеля таго, каб яна дазволіла хаця б адзін пацалунак, — і ўсё адпіхвалася і рагатала, раз за разам паўтараючы Мішавы словы: «Я кахаю цябе, я кахаю цябе...»

Як даўно казаў ён гэтыя словы, хаця, пэўна, таксама помніць, але хай бы сказаў яшчэ калі... што яму — цяжка, ці што?! — але ж...

І яна, успомніўшы ўсё гэта, адкрыта, не палохаючыся, зірнула на мужчыну, які, напэўна, добра разумеў яе, бо прыязна і спагадліва ўсміхаўся.

— Ведаеце, мне пара! — даверліва сказала яна. — Выходжу во тут, — кінула яна на развітанне. — Шчасліва!

Па-дзявочаму лёгка саскочыла з прыступак і спрытненька затупала па бялюткім рыпучым снезе, з асалодай удыхаючы халаднаватае, трошкі марозлівае паветра, і снапок светлых, як лён, валасоў быў ужо не снапок, а задзірысты дзявочы хвосцік, якому не ў галаве трывогі, клопаты, невядомасць...

«Хай бы што здарылася! Хай бы што здарылася!» — як замову паўтарала яна і знарок мацней націскала падэшвамі на снег, каб той рыпеў гучней, як у сапраўдны мароз, каб як на свята... А вочы тым часам успаміналі другія вочы — трошачкі сумнаватыя, але жывыя, а вусны ўсміхаліся і чакалі другіх вуснаў — трошачкі насмешлівых, але спагадлівых...

— Рып-рып! — гэта былі не яе крокі, не жаночыя.

Яна азірнулася: ён стаяў крокі за два ад яе, высокі, мажны.

Снег зацерусіў яго паліто, шапку, шалік... Адна сняжынка трапіла раптам яму на вейка, і ён заміргаў.

«Мусіць, халодная», — падумалася ёй пра сняжынку, і яна зняла пальчатку, але ён ужо сам працёр вока і толькі пасміхваўся з такой недарэчнасці.

— Мяне завуць Кацярына, — пазіраючы яму ў вочы, сказала яна. — Вы, мусіць, да нас, у інстытут?

— Не, я да вас.

— А хто ж вы? Я вас не ведаю.

— Хто я? — мужчына трошкі задумаўся, а потым сказаў коратка і ясна: — Ганчак!

Яна разгубілася, не разумеючы, ці гэта такое прозвішча, ці нейкі жарт, які яна ніколі не чула, і мужчына паспешна растлумачыў:

— Я — ганчак! Ганяюся за прадуктамі, — і непрыгожа падціснуў вусны. — Адно бяда — не магу стаяць у чэргах: усе такія злосныя, раз'юшаныя... А вы — такая спакойная, немітуслівая, дык я і падумаў, што вы — прадаўшчыца, у магазіне якім робіце... Я штось не так?.. Вы пакрыўдзіліся?

Густы — камякамі — снег наліпаў на адзежу даволі хутка. Страсаць яго праз кожны крок — не мела сэнсу...

## ЗАБІ МЯНЕ!

— Забі мяне! — просіць белае кацяня, скурчыўшыся ў равочку, дзе летам капалі канаву — пад трубы для гарачай вады.

Сядзіць даўно — з самай восені.

У бабіна лета было цёпла, а цяпер — у слоту — сагрэцца можна толькі там — у равочку: асфальт побач мокры, а равочак — сухі.

Але холад дабіраецца і сюды —не лета! І кацяня енчыць штодзень:

— Забі мяне!

Але ні ў кога не стае духу выканаць кацінаю просьбу. Хто старэйшы ці зусім малы — кіне мімаходзь скарыначку, але ў хату не пускае — каток даўно хворы, — а дарослы — з тварам каменным — прабяжыць хуценька, быццам і не бачыць таго кацяняці, але ж і яго паласне па душы кацінае мяўканне:

— Забі мяне!

Хто ж заб'е?!

Нават звыш дзелавыя — у джынсах ды пры кейсах — чуюць гэты плач і грэбліва крывяцца, але спыніцца — ці ёсць ім калі?!

Як добра, што тыя — у джынсах— не маюць вольнай хвілінкі!

Як добра, што мы самі яшчэ не страцілі слых, што мы яшчэ нешта бачым і здольны здагадацца, аб чым моліць белае кацяня.

Яно ўжо змарылася прасіць і мяўкае проста так — у паветра, — нават калі ніхто і не ідзе праз двор —толькі каб адпусціць невыносны пакутлівы боль — забі мяне! — але хто ж возьме на сябе такі грэх?

Пазаўчора каток перамог нас усіх, разам з нашымі слабымі душамі: нехта з прышлых блазнюкоў — сваіх то мы добра ведаем! — выпадкова забег у двор і невядома з-за чаго гахнуў кацяня прэнтам.

— За-а-а... мя-а-а...

У той вечар мы ўпершыню ўздыхнулі вальней: вярэдлівыя пакуты скончыліся. І гэта пачулася намі як свята. Але адзначаць яго ніхто не асмельваўся. Порсценька беглі да сябе, у кватэру, і моўчкі — не на чужых вачах — дзякавалі Богу, што ўсё скончылася так добра — ніхто з нас і пальцам не крануў таго кацяняці.

## СВЯТАЯ ТРОЙЦА

Святая Тройца — Вера, Надзея, Любоў.

Вера памерла першай — чамусь раней за ўсіх — ад сухотаў.

Надзея — выжыла, але зрабілася старой каргой — гарбатай, крывой і нядужай. Хадзіла з кіёчкам і штораз губляла яго — трэсліся рукі.

Любоў— як і была—засталася маладой і вабнай. Яе не псавалі ні войны, ні рэзрух, ні нястачы. Ёй увесь час хацелася любіць. І яна — любіла. Штогод маладая і заўсягды прыгожая жанчына, якой не было калі плакаца, бо трэба было раджаць дзяцей, гадаваць іх, і яна раджала і гадавала.

І ў душы кожнага яе дзіцяці жыло нешта ад Веры і ад Надзеі, бо ўсе трое — былі родныя сёстры. І бацькава кроў у іх была адна — Боская!

## СЯБРЫ І ВОРАГІ

Чалавек утаймаваў Агонь і палічыў сябе Пераможцам.

Потым утаймаваў Атам і палічыў, што ён — Уладар Зямлі.

Ці хопіць у яго розуму ўтаймаваць самога сябе — самага страшнага свайго Ворага?

Агонь і Атам — Сябры да першай абмылкі — помсцяць за няўвагу ці за недагляд.

Неўтаймаваны Вораг —якраз тым, што ўсё сабе дазваляе.

## НОВАЯ ХАТА

І пачалі людзі будаваць хату.
Адзін кажа: «Давай гэтак зробім».
А другі: «Не, давай так!»

Пакуль спрачаліся — і састарыліся.

## ПА ВОБЛІКУ ДЫ ПАДОБЕ

«Нічога не бывае дарэмна», — пазіраючы на людскую мітусню, сказаў Бог і болей нічога не сказаў.

Чалавек, які на той момант апынуўся побач, пачуў гэтыя словы і здзівіўся:

«Авой! Дык і я ўсім тое самае кажу! Хто б мог падумаць, што мы з Богам такія аднолькавыя!»

## ЯК ТАТКА З ЛЮБКАЙ У МАГАЗІН ХАДЗІЛІ

— Тата, купі мне цукерку, — просіць дачушка.

Тата зірнуў — маленечкая цукерка, прыгожая: літаркі на ёй замежныя, а абгортка — так і зіхціць рознымі колерамі. І, пэўна, смачная, калі дзесяць рублёў каштуе. Аднюсенькая.

— А яшчэ, — дачушка цягне татку за рукаў, — купі мне вунь тую кніжку.

Татка зірнуў: кніжка таксама дзесяць рублёў коштам. А ў татавай кішэні — усяго пятнаццаць.

— Выбірай, дачушка, — кажа татка — што табе лепш: цукерка ці кніжка? На тое і на другое ў нас грошай няма.

— А ты, татка, — памяркоўна кажа дачушка, — купі мне палову цукеркі і палову кніжкі. А заўтра — другія палавінкі адкупім, добра?

З ПАЭТЫЧНАЙ ПОШТЫ

Галіна ВАРАТЫНСКАЯ

## У чарзе

Прыстроюся ў чаргу, дзе мой народ
знямоглы,
Давай жа пастаім да самага канца.
Не трэба раскісаць, як спелы клін
палёглы.
У імя сына, духу і айца.

Набудзем веру. Толькі ўсім ці хопіць.
Яе так мала ўпрыцемках паліц.
Падайце нам, і кожны зноў падхопіць,
заплаціць тым, што сёння так баліць.

Нам падзяляюць абяцанні па талонах!—
жабрацтвам плацім. Можа праўды лепш
узяць спаўна з раскрытых скрынак
поўных!
Яна заўсёды — і вада, і хлеб.

Даюць іконы, лік Хрыста святы
прачысты,
ды нам іх цяжка з богам параўнаць.
таму што ўчора кожны зваўся
атэістам...
Прыйшоў рахунак. Сплочвае віна.

Відаць, нічога нас, грахоўных, не
ўратуе,
калі купляць па дарагой цане.
Хто ж мы такія, калі ўсё дратуем,
а потым вырашаем: так ці не.

г. п. Ушачы.

Мечыслаў ШАХОВІЧ

## Лён

*У некаторых рэгіёнах Беларусі перасталі вырошчваць лён.*

Адрунеў маладым аксамітам,
Адпалаў у полі блакітам,
Летняй спеласцю адзвінеў,
Палатном ля ракі адбялеў,
А было ж гэта дзіва, было.
Ды з вадою ў нябыт сплыло...
Лён нам светлую долю прарочыў.
І дзявочыя косы і вочы
Параўноўвалі з ім мы заўжды
У свае маладыя гады.
Адсінелі калгасныя гоні...
Ды цяпер мы ў шалёнай пагоні
За ўсім, што з лёну саткана,
Што рукамі жанок вышывана...
Не забыць аніколі кашулі,
Што саткана рукамі матулі.
Ды і сёння, як памяць схаваны
У куфэрку ручнік вышываны.

г. Смалявічы.

Васіль РАГАЎЦОЎ

●

Не верце, што зоркі ніколі не грэюць.
Ад зорак пагляды каханых
цяплеюць,
Ад сполаху зорак сэрцы дабрэюць.
Ад зоркавых ззянняў душы шчырэюць.
Не верце, што дрэвы не тужаць ніколі.
Зацята скрыпяць яны, плачуць з
патоляй
Па песнях птушыных, не чуць якіх
болей,
Па ветру-свавольцу, згубіўся што ў полі.

Не верце, што рэкі не просяць напіцца.
У сушу-спякоту, каб смагі пазбыцца.
Сумуюць яны па сцюдзёных крыніцах,
Ім сняцца начамі дажджы-навальніцы.

Не верце, што сэрца не знае спачыну,
Не верце, што б'ецца ўвесь час
несупынна.
Яно замірае на хвілю-часіну
Ад жаху... здзіўлення... пагляду
дзяўчыны...

г. Магілёў.

Яўген ЦІХАНОВІЧ

# Не засталося нікога...

## Мазаіка згадак і дакументаў

Нейкі час існавала думка, што Галубок быў мастаком-дылетантам. Але не дыплом вызначае мастака, а яго работы і тая настойлівая студыя-школа, якую можна атрымаць пры жаданні і настойлівай працы.

Мы спыняемся ля дошкі аб'яў. Афіша запрашае гледачоў наведаць мастацкую выстаўку пейзажаў Уладзіслава Галубка, што ў Доме пісьменнікаў. Цікавасць да выстаўкі ўзрастае з маланкавай хуткасцю, бо на афішы — прозвішча славутага артыста, вядомага ўсёй Беларусі — ды яшчэ з такім да яго нязвыклым анонсам.

**Было гэта ўлетку 1935. У. Галубок атрымаў свой чарговы водпуск і скарыстаў яго для падрыхтоўкі выстаўкі. Мне пашчасціла браць удзел у адборы ўсяго лепшага, што меў паказаць Уладзіслаў Іосіфавіч на сваёй першай асабістай выстаўцы краявідаў, а гэта была цяжкая задача. Бо было нас двое — я, тады яшчэ малады мастак, без ніякага вопыту крытыкі чыісьці мастацкіх твораў, ды сам аўтар, які не можа ўсебакова ацаніць уласнае працы. Памятаю, што і дачка Галубка Люся (яна скончыла Віцебскі мастацкі тэхнікум на год раней за мяне), раіла бацьку выставіць веснавы эцюд, напісаны а ля-прыма, што значыць хутка, у адзін мах, з наскоку; тут, — казала яна, — адчуваецца непасрэднасць; не было часу на дробязі і Галубок ухапіў галоўнае, а галоўнае — гэта ў краявідзе настрой. Так мы на хатнім мастацкім савеце ўхвалілі больш за 40 твораў...**

Пісаў Галубок алейнымі фарбамі і любіў больш за пэндзлі мастэхін, бо лічыў, што мастэхінам хутчэй даб'ешся фактуры, хутчэй схопіш тое, што часта змяняе святло і цені, ці каларыт наваколля.

Галубок меў сваю «тэму». Ён, напрыклад, не раз казаў мне, што прыроду трэбаназіраць штодзённа, але браць ад яе толькі тое, што здараецца не часта і не працяглы час, а нейкае імгненне, як, скажам, непаўторнае неба перад навальніцай, ці лірычны веснавы разліў рэк, ці крыгаход, ці вецер-буралом, ці туманы Палесся. Трэба, казаў ён, шукаць упарта не ў майстэрні, а ў жыцці. У самой прыродзе шукаць таго адзінства процілегласцей, без чаго не можа быць ніводнага мастацкага твора.

Гаворачы пра Галубка-мастака, нельга мінуць і яшчэ адзін, вельмі каштоўны бок яго таленту. Ён быў адзіным мастаком свайго тэатра, мастаком, якому даводзілася рабіць усё тое, што робіць кожны мастак у тэатры, а можа, і значна больш, бо трэба было пісаць «заднікі», рабіць бутафорыю (з пап'е-машэ) ды накладваць першы грым сваім артыстам у тых ролях, што былі задуманы Галубком-драматургам (рабілася гэта без эскізаў, зыходзячы толькі са свайго густу ды ўмення).

...Любіў Галубок наведваць Віцебскі мастацкі тэхнікум, а за час навучання ў ім яго сярэдняй дачкі Люсі, дык наведваў па два разы штогод. Аднойчы ён мусіў завітаць у Віцебск пасля таго, што дачка пісала бацьку, «...калі будзеце мець час, прыязджайце паглядзець, як мы паставілі вашу драму «Бязвінная кроў».

Трэба адзначыць, што мастацкі тэхнікум меў даволі моцны на той час драмгурток, дзе было многа здольных хлапцоў і дзяўчат. Яны адначасова выконвалі ролі і рабілі афармленне да спектакляў разам з дэкарацыямі і вопраткай, якую бралі ў тэатры «напракат», рабілі такія цікавыя пастаноўкі, што неаднойчы запрашаліся іншымі навучальнымі ўстановамі горада, дзе давалі «гастролі» зусім як на прафесійнай сцэне. Ставіла «Бязвінную кроў» Люся Галубок. Яна ведала, хто з студэнтаў патрапіць да таго ці іншага тыпажу,— так, як было «ў Галубка»... Ужо тады вызначаўся добрай ігрой студэнт Анатоль Трус (народны артыст БССР у будучым), які ў ролі Ціта прыносіць на руках хлопчыка-тапельца і звяртаецца да пана памешчыка са словамі: «Вось праца вашых рук!»

Галубка вельмі цікавіла моладзь Беларускага педагагічнага тэхнікума і вячэрніх школ рабочай моладзі, адкуль з гурткоў мастацкай самадзейнасці часта выходзілі здольныя, таленавітыя «кадры» галубкоўскага тэатра.

Ранні час дзейнасці тэатра «пад загадам» Галубка, як калектыўнага творцы, носьбіта мастацтва для гледачоў шматлікіх вёсак, мястэчак і невялікіх гарадоў Беларусі, прыпадаў на той раён, дзе цэнтрам у 1924 годзе лічылася мястэчка Шацк, атрымаўшы замест воласці назву РИКа. Да самага мястэчка прылягалі дзве вёскі, даволі значнага памеру, так што гледачоў хапала як па ўзросце, так і па родзе заняткаў, а па сацыяльным стане дык каго толькі там ні было, бо веў рэй нэп, а ў навакольных вялікіх лясах яшчэ шлындалі банды. У мястэчку дзве сінагогі, адна царква, разбураны бровaрны завод, сямігодка ў панскім маёнтку, Нардом у былым доме тутэйшага папа, вадзяны млын. У вялікім драўляным доме змяшчаліся райком партыі, РИК, райваенком ды іншыя ўстановы раённага цэнтра. Навокал рынкавае плошчы — крамы, цырульня, пякарня, магазін сельпо, чайная.

**Народны дом — гэта і бібліятэка, і глядзельная зала са сцэнай і раялем, і два пакойчыкі за сцэнай. Электрычнасці ў мястэчку няма, ёсць газавыя вялікія лямпы. Зімой ці ўлетку сюды кожны тыдзень наязджаюць гастралёры з Мінска, рознага роду «артысты» эстрады — куплецісты, ці музыкі з маленькімі гармонікамі, або спевакі ці ілюзіяністы, або асілкі, што кладуцца спіной на дошку з цвікамі, а па іх нехта ходзіць з добраахвотнікаў з залы, бо трэба засведчыць вастрыню цвікоў і моц скуры асілка. Былі і такія, што складалі вершы ў адно імгненне — са слоў гледачоў або падстаўных асоб, якія нешта выкрыквалі з залы і ў выніку атрымлівалася так: «Возьмите примус, сварите цимус...»**

Нельга было нічым спыніць тую брудную плынь, бо гэтым «майстрам сцэны» ўсё роўна не было перашкод ні ад кантролю рэперткомаў прафсаюза Рабіс, ні ад мясцовых улад. Зразумела, што ў раён едуць розныя ашуканцы і пашлякі, або артысты такога нізкага ўзроўню, што толькі іх сумніцельны рэпертуар можа прывабіць частку той моладзі, бацькі якіх сядзяць у крамах ці гандлююць на кірмашах. Прыгадаем, дарэчы, што і кінастужкі, што прывозілі кінаперасоўкі, не адпавядалі запатрабаванням сяла ці мястэчка, ішлі: «Сюркуф — гроза морей» ці «Жизнь за жизнь», або «Поцелуй Мери Пикфорд». Камерцыйны інтарэс быў не апошні пры нэпе.

Але аднойчы на ўсіх відных месцах—адмысловая зробленыя



**15 мая споўнілася 110 гадоў з дня нараджэння аднаго з заснавальнікаў беларускага сучаснага тэатра, рэжысёра, драматурга і мастака Уладзіслава ГАЛУБКА.**

**Прапануем увазе чытачоў дзве публікацыі, спароджаныя гэтай датай: успаміны мастака Яўгена Ціхановіча (зяця Галубка) і даследаванне тэатразнаўцы Уладзіміра Мальцава. На фоне нашага сённяшняга няведання і нязведання Галубковай, так бы мовіць, «эпохі» гэтыя матэрыялы будуць для чытача, бадай, своеасаблівым адкрыццём, —у тым сэнсе, які ўкладаў у гэтае слова сам Галубок і ператлумачыў для нашчадкаў слоўнік Вацлава Ластоўскага...**

Уладзімір МАЛЬЦАЎ

# Як знішчалі тэатр

## Апошнія сезоны БДТ-3

Слава У. Галубка прыпала на 20-я. Тады народная свядомасць і замацавала вобраз мастака-вандроўніка, што сабраў вакол сябе групу энтузіястаў. За 10—15 кіламетраў ішлі сяляне паглядзець на «галубянятаў»; у рукапісах галубкоўскія п'есы ўмэнт разыходзіліся па аматарскіх сцэнах. Слава бегла наперадзе ягонага перасоўнага тэатра. Атмасфера мастацкай незапраграмаванасці 20-х, пазбаўленая ўстойлівых «жанраў» грамадскага жыцця, не супярэчыла стыхійнасці яго таленту. Час спрыяў Галубку... Свабода перасоўвання ў прасторы была для яго і свабодай дзейнасці ў розных галінах творчасці: быў і акцёрам, і рэжысёрам, і драматургам, і мастаком, і бухгалтарам... Стабілізацыя грамадскага жыцця з канца 20-х змяняла і формы прафесійнага бытавання яго тэатра, і стаўленне да ягоных п'ес, але вобраз асветніка, крэўна звязанага з сялянствам, назаўсёды застаўся ў гісторыі сталення нацыянальнага духу.

Як феномен галубкоўскі тэатр знік у 30-я гады. БДТ-3, створаны на падставе ягонай перасоўнай трупы, імкліва мяняў і метады творчай працы, і рэпертуар, і глядацкую аўдыторыю. Звестак пра гэты перыяд жыцця У. Галубка вельмі мала, ён і ягоны творчы лёс нібы збочвае з тых гасцінцаў ды шляхоў, якія мерала беларускае мастацтва. Прынамсі, знаёмства з некаторымі дакументамі, што захоўваюцца ў архівах, пакідае такое адчуванне. У новым калектыве У. Галубок атрымаў пасаду дырэктара. І хоць ён па-ранейшаму пісаў п'есы, іграў у некаторых спектаклях, каштарысы ды паперчыны не ўмяшчаліся, як калісьці, у адным партфелі. Ягонай сталай штодзённай дзейнасцю зрабілася тэатральная гаспадарка БДТ-3, побыт акцёраў, матэрыяльнае забеспячэнне мастацкага працэсу, арганізацыя гледачоў. Яму надалі званне народнага артыста рэспублікі, далі персанальную службовую машыну, ды ў становішчы галоўнага гаспадарніка тэатра яму не выпадала пільнавацца мастацкага працэсу. У гэтыя гады У. Галубок піша мемуары (да нас не дайшлі), патрэба ў якіх узнікае, калі інтуітыўна ўсведамляеш, што значная частка ўласнай творчай біяграфіі — ззаду. Ён уступаў у новую паласу жыцця, якое абарвалася ў 1937 годзе.

У спектаклях перасоўнага тэатра, блізкіх да эстэтыкі фальклору, У. Галубок увасабляў уласныя ўяўленні пра народнае мастацтва. Цяпер, быццам адараўшыся ад свайго стваральніка, тэатр імкнуў у нейкім новым і зусім нечаканым кірунку, які ўзнікаў на скрыжаванні розных палітычных павеваў і творчых воляў. І сам У. Галубок, як драматург, падладжваўся, аддаваў даніну патрабаванням новага часу, звяртаючыся да сюжэтаў, што вымагала сучаснасць.

Пад сваім дахам БДТ-3 збірае мастакоў розных эстэтычных поглядаў, да чыіх лёсаў так ці інакш даляцела гарачае дыханне часу рэпрэсій. У тэатры ставіў Е. Міровіч, які выхаваў цудоўную плеяду акцёраў у БДТ-1, але пасля афіцыйнай кампаніі па барацьбе з нацдэмаўскай ідэалогіяй быў вымушаны пасяліцца ў правінцыі і зноў заняўся пачатковай прафесійнай падрыхтоўкай артыстаў мясцовага ТРАМа. Разавыя пастаноўкі ў БДТ-3 заставаліся для яго тонкай нітачкай, якая звязвала з прафесіяналамі. Тутсама дэбютаваў выпускнік тэатральных майстэрняў пры тэатры імя У. Меерхольда рэжысёр В. Пацехін, які зрабіўся кіраўніком Палескага (Мазырскага) калгасна-саўгаснага тэатра. Запрашалі і былога галоўнага рэжысёра БДТ-2 С. Розанава. Агульнае кіраўніцтва мастацкім працэсам ажыццяўляў акцёр і рэжысёр БДТ-2 К. Саннікаў, таксама ў будучым вядомы майстар беларускай сцэны. Тады ён толькі пачынаў займацца рэжысурай... рашуча і напорыста. На яго ўсклалі абавязак наблізіць неразваротлівы на той час калектыў да перадавой лініі савецкага сцэнічнага мастацтва, і ён, як мастак, заўсёдна перамагаў супраціўленне з сярэдзіны самога тэатра. Прынамсі, на пленуме Саюза Працмастацтва ў 1933 годзе вялася гаворка пра канфлікт паміж К. Саннікавым і У. Галубком.

Памяркоўна пераўтварыць перасоўны тэатр у стацыянарны не выпадала. Да новых мастацкіх мэтаў калектыў рушыў, ламаючы традыцыі дзесяцігоддзяў. І ўсё ж пераўтварэнне перасоўнай трупы У. Галубка ў БДТ-3 нельга прызнаць нейкім штучным. Вестку аб стацыяніраванні трупа прыняла з натхненнем; маўляў, прызнаны іхнія шматгадовыя заслугі! Вабілі перспектывы прафесійнага росту дый стаміліся людзі ад бясконцых вандровак, марылі хоць пра нейкую пэўнасць... Праўда, У. Галубок не хацеў, каб тэатр знайшоў сабе прыстанак у Гомелі, прапаноўваючы ў лістах то Бабруйск, то Магілёў. Аднак па меркаваннях «высокай палітыкі» калектыў у 1932 годзе быў стацыяніраваны менавіта ў Гомелі. Чаму — можна толькі здагадвацца. Паводле сакрэтнага (цяпер апублікаванага) пратакола пасяджэння цэнтральнага бюро кампартыі Беларусі, пры «залічэнні» Беларусі ў склад СССР урад патрабаваў вярнуць Віцебскую і Гомельскую губерні, якія да 1922 года належалі РСФСР. Віцебская губерня далучылася да БССР у сакавіку 1924 г., Гомельская — у снежні 1926 г. Для ўпарадкавання гаспадарча-культурных сувязей у цэнтрах новай тэрыторыі і былі створаны пастаянныя беларускамоўныя тэатры. Спачатку—БДТ-2, потым БДТ-3. Беларускія тэатры ў 20-я гады мусілі прапагандаваць нацыянальнае мастацтва сярод русіфікаванага гарадскога насельніцтва (бальшыню насельнікаў Мінска, Віцебска ў той час складалі рускія і яўрэі, культурныя запатрабаванні і густы якіх былі гістарычна сфарміраваны пад уплывам дарэвалюцыйнай антрэпрызы). Беларусізацыя толькі ўмацоўвала іх пазіцыі. Але стацыяніраваны ў Гомелі БДТ-3 трапіў у больш складаную сітуацыю. Пік беларусізацыі прайшоў, фактычна не паўплываўшы на аблічча мясцовага гарадскога побыту, закрануў толькі верхнія «афіцыйныя» пласты яго жыцця (справаводства, друк, тэатр, асвета). Гастролі беларускіх тэатраў у горадзе, насельніцтва



ЛЕЎЧЫК Вольга з сынам Міхаілам.

ецца, усё было добра. Але, мусіць, пад нешчаслівай зоркай нарадзілася Валянціна. Калі дачцэ было 5 гадоў, Кавалёў пайшоў да другой жанчыны. Засталася яна з малым дзіцем ды са сляпою маці.

Калі пачаў будавацца Салігорск, Валя вырашыла перабрацца ў горад. Спадзявалася, што будзе лягчэй — хоць не трэба дбаць пра сена, дровы, іншыя гаспадарчыя патрэбы, якія без мужыка робяцца не пад сілу. Першая спроба была няўдалай, але ў рэшце рэшт уладкавалася ў бальніцу санітаркай. Галоўнае — паабяцалі гадоў праз колькі кватэру, а пакуль што далі пакойчык у будынку старой амбулаторыі, дзе яны і туліліся ўтраіх.

## САША

У 19 гадоў Саша выйшла замуж. Дачка Таня, якая нарадзілася праз год, была вельмі падобная на бацьку. Кажуць, гэта шчаслівая прыкмета. Аднак у дзяцінстве яна не спраўдзілася. Калі Тані было тры гады, бацька пакінуў сям'ю. Саша ўладкавалася туды, дзе да самай пенсіі працавала і маці — у аперацыйную хірургічнага аддзялення санітаркай.

Стрыманая, увесь час нечым заклапочаная, яна на кароткі час прысела каля стала, за якім мы з Валянцінай Арцёмаўнай вялі размову.

«З мяне на рабоце смяюцца некаторыя: бач ты, на што грошы траціць — кніжкі купляе. А для мяне гэта такая радасць! Я ж іх купляю не для таго, каб выставіць, а каб чытаць. У нас усе іх любяць, і маці, і Таня». Яна паказвае бібліятэку, расказвае пра асобныя кнігі, найбольш любімыя. Кніг даволі шмат, нячытаных сярод іх няма.

«Ведаеце, я ніколі не марыла, каб што-небудзь набыць — нейкія там упрыгожанні, сукенкі, ці каб рэчы дарагія ў мяне былі. Вы ж бачыце, як мы жывём — нічога лішняга, усё толькі самае неабходнае. А сёння ж людзі як павар'яцелі ўсё роўна. Бавяць свой час у чэргах за рознымі анучамі, злуюцца адно на аднаго і на ўвесь белы свет. Як жа так можна жыць? Я ўвесь год працую, стараюся сабраць капейчыну, каб летам некуды паехаць. Больш за ўсё люблю падарожнічаць. Гэта, мусіць, ад бабулі і маці. Падабаецца прыехаць туды, дзе ніколі не была, убачыць і пачуць нешта цікавае. Гадоў колькі таму экскурсійнае бюро арганізавала паездку ў Ленінград. Прыехалі мы, жанчыны па магазінах разбегліся, а я ў музеі хачу. Ледзьве знайшла сабе напарніцу. Затое столькі ўбачыла, што потым цэлы месяц расказвала маці і Тані».

Так, гэтая рыса ў іх сямейная. У фотаальбоме я ўбачыла здымак, які даслаў яшчэ ў 57-м годзе Міша. На ім надпіс: «Мілай мамачцы ад сына. Гэта я сам сфатаграфаваў у Траццякоўцы. Карціна А. Іванова «З'яўленне Хрыста народу». На маё пытанне, як жа сляпая маці магла ўбачыць карціну, жанчыны ў адзін голас тлумачаць: «Мы ёй усё расказвалі, што тут намалявана».

Саша захавала самыя цёплыя ўспаміны пра бабулю Вольгу, якая заўсёды перад сном спявала ёй песню або цешыла казкай. «Акуратная была, заўсёды чысценька апраналася, любіла вельмі мыцца. Не магла сядзець без працы, усё старалася чым-небудзь дапамагчы. То шые нешта, то мые, а то з Таняй займаецца».

Саша ўспамінае, як у дзяцінстве вадзіла бабу Вольгу па святах да царквы ў Старобін, Краснадворцы або Чыжэвічы. «Яе ўсё наваколле ведала. Падыходзілі, распытвалі. А як зайграе на леры ды заспявае, дык многія плачуць».

Валянціна Арцёмаўна перабірае фотаздымкі, расказвае пра родных. Шкадуе, што Міша ў свой час паехаў далёка ад дому, у Яраслаўль. «Але жонка ў яго была вельмі харошая, сямёра дзетак у іх, усе талковыя». Уздыхае: «Памёр наш Міша ў 83-м годзе». Зноў вяртаецца да здымкаў: «Гэта мы з Сашай у Маскву ездзілі... Вось Саша, калі паездка па гарадах-героях была. А гэта мы на моры. Таня тут яшчэ маленькая...»

## ТАНЯ

У 1979 годзе, калі памерла прабабка, Тані было 10 гадоў. Але дзіцячыя ўражанні, кажуць, асабліва моцныя. Яна памятае незвычайную бабулю, якую любіла, узяўшы за руку, вадзіць па кватэры. Маленькая дзяўчынка ведала, што бабуля сляпая, і ёй здавалася, што без Танінай дапамогі яна не абыдзецца. Захавала памяць і фасоліны, якія бабуля раскладвала на стале і, пасадзіўшы Таню побач, вучыла яе лічыць, а пазней нават дапамагала рашаць задачы. І леру яна памятае, бабуля не разлучалася з ёю да апошняга.

У 18 гадоў Таня выйшла замуж. «З'явіўся, нарэшце, хоць адзін мужык у доме», — усміхаецца Валянціна Арцёмаўна. І дадае: «Каб не прагаварыцца, харошы наш Гена. Добра жывуць, вось і дачушка нарадзілася, Волечкай назвалі».

## ВОЛЕЧКА

Маленькая Волечка з'явілася на свет з годзік таму. Яна яшчэ нічога не ведае пра свой радавод. Не магла яна чуць, як на свяце беларускай культуры ў яе родным горадзе гучала лера сляпой жанчыны. Не магла бачыць майстра Уладзіміра Пузыню, які вярнуў леру да жыцця. Але прыйдзе час, падрасце дзяўчынка, і раскажуць ёй маці, бабка і прабабка шмат цікавага. І прывядуць яе ў краязнаўчы музей, і ўбачыць яна тую леру, і прачытае: «Лера колавая. Выраблена ў пач. XX ст. для сляпой дзяўчынкі з вёскі Доўгае Леўчык Вольгі».

...Я схіляю галаву перад жанчынамі гэтай сям'і. Мяне да глыбіні душы кранае іх мужнасць і чалавечая вартасць, шчырасць і даверлівасць, адданасць свету духоўных каштоўнасцей. І так хочацца, каб лёс быў літасцівым да іх надзеі — да маленькай Волечкі. Беражы цябе Бог, дзіцятка!

***Ларыса БОЙКА,***
***навуковы супрацоўнік***
***Салігорскага краязнаўчага***
***музея.***

# Хто гаспадар храма?

**Рэлігійная барацьба, сведкамі аднаўлення якой мы з'яўляемся, трывожыць душы вернікаў. Пытанні аб прыналежнасці храмаў часам выклікаюць бурныя дэбаты з удзелам не толькі «зацікаўленых бакоў», а і прадстаўнікоў улады, навуковай грамадскасці. Для мінскіх вернікаў грэка-каталіцкага і праваслаўнага абрадаў такім «яблыкам разладу» стала пытанне аб канфесійнай прыналежнасці Петрапаўлаўскай царквы, што на Нямізе.**

У спрэчцы вернікі РПЦ карыстаюцца канцэпцыяй, распрацаванай у канцы XIX — пачатку XX ст. і прыняўшы свой канчатковы выгляд у кнізе а. Паўла Афонскага «Триста лет в Православии» (Мінск, 1913 г.). Менавіта з гэтай працы версія аб паходжанні Петрапаўлаўскай царквы як храма аднайменнага праваслаўнага мужчынскага манастыра перайшла ў больш познія выданні па гісторыі Менска. Дзіўна, але нават складальнікі «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» і даследчыкі Белрэстаўрацыі (якія рэстаўравалі Петрапаўлаўскую царкву ў 70-я гады) настолькі былі ўпэўнены ў слушнасці аргументаў П. Афонскага, што не палічылі патрэбным звярнуцца да першакрыніц — актаў Менскага магістрата ды даведнікаў аб праваслаўных манастырах XIX ст. Між тым у працах па рэлігійнай гісторыі Беларусі, ранейшых за кнігу П. Афонскага, Петрапаўлаўская царква амаль нідзе не атаясамляецца з Петрапаўлаўскім манастыром у Менску. Больш таго, па даведніку Звярынскага «Материал для историко-топографического исследования о Православных монастырях Российской империи» (СПб., 1890 г., ст. 203, даведка № 356) бачна, што ў Менску існавалі два Петрапаўлаўскія манастыры: мужчынскі, заснаваны ў 1612 г., і дзявочы, заснаваны ў 1619 г.,— якія мелі свае асобныя храмы. Была таксама уніяцкая Петрапаўлаўская царква, першыя згадкі аб якой датычаць 1600 г. («Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии». Менск, 1848 г., ст. 151, акт № 83). Таму для вырашэння пытання: што за храм ацалеў у Менску на Нямізе — разгледзім гісторыю заснавання і забудовы абодвух праваслаўных манастыроў.

Менскі Петрапаўлаўскі манастыр (мужчынскі) быў закладзены віленскімі Свята-Духаўскімі манахамі, якія прыбылі ў Менск па запрашэнні праваслаўных вернікаў летам 1612 г. Але інакі на чале з ігуменам Паўлам Домжывым храма пры сваім манастыры не будавалі, яны яго захапілі з дапамогай праваслаўных гараджан. Гэтага факта не адмаўляе і П. Афонскі, пішучы, што 14 верасня 1612 г. возны Менскага ваяводства разам з Менскім пратапопам Гаінскім і ўсімі саборнымі святарамі прыйшоў у Менскую ратушу і заявіў, што праваслаўныя паўсталі супраць пратапопа і саборных святароў за прыняцце імі уніі, сілай выгналі з саборнае царквы Нараджэння Прасвятой Багародзіцы і аддалі гэтую царкву «новаприбылым з Вильны до Менска чарнецам». На падставе каралеўскіх указаў возны запатрабаваў, каб будаўніцтва манастыра было спынена, а царква вернута уніяцкаму пратапопу Гаінскаму пад пагрозай штрафу 5000 літоўскіх грошаў. 21 кастрычніка 1612 г. возны адаслаў аналагічны ліст на імя Менскага войта Рыгора Тэрляцкага (П. Афонский, «Триста лет в Православии», ст. 11).

З іншага боку, вядома, што праваслаўныя манахі будавалі нейкую Петрапаўлаўскую царкву на пляцах, ахвяраваных удавой каралеўскага маршалка Багдана Стацкевіча княгіняй Аўдоццяй Друцкай-Горскай. Але гэтая царква не магла знаходзіцца пры мужчынскім Петрапаўлаўскім манастыры. Ён, як і захопленая царква Нараджэння Прасвятой Багародзіцы, знаходзіўся на зямлі Януша Радзівіла, які граматай ад 14 студзеня 1614 г. афіцыйна дазволіў «інакам праваслаўнага манастыра пры царкве Нараджэння Прасвятой Багародзіцы ў Менску, пабудаваных на яго землях, мешканьне пры гэтае царкве». («Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии», акт № 53). На карысць гэтага сведчыць яшчэ адзін факт. Царква Нараджэння Прасвятой Багародзіцы згарэла каля 1626 г., і манахі звярнуліся да князя Хрыстафора Радзівіла па дазвол на яе адбудову, які быў дадзены 22 траўня 1626 г. («Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии», акт № 84). Але адбудавана царква не была, бо грамата Хрыстафора Радзівіла з'яўляецца апошнім дакументам, у якім згадваецца Менская царква Нараджэння Прасвятой Багародзіцы на Нямізе, і ў далейшым гаворка ідзе толькі аб Петрапаўлаўскім праваслаўным манастыры (мужчынскім). А праваслаўная Петрапаўлаўская царква, якую збудавалі віленскія Свята-Духаўскія манахі, пачынае згадвацца як адзіны храм гэтае канфесіі ў Менску. Таму ёсць усе падставы лічыць, што пасля пажару мужчынскі манастыр увогуле не меў царквы, а толькі памяшканні для брацііі.

Існаванне праваслаўнай Петрапаўлаўскай царквы на пляцах, што ахвяравала княгіня Друцкая-Горская 23 лістапада 1611 г., звязана з Петрапаўлаўскім праваслаўным дзявочым манастыром, заснаваным княгіняй Ганнай Агінскай-Стацкевіч у 1619 г. Блаславенны ліст на яго заснаванне ад Віленскага Свята-Духаўскага архімандрыта Лявонція Карповіча быў атрыманы 31 ліпеня 1618 г., і менавіта ў ім паведамляецца, што дзявочы манастыр у імя св. Пятра і Паўла засноўваецца пры Петрапаўлаўскай царкве, пабудаванай на «грунце княгіні Друцкае-Горскае» і будзе стаяць на тым жа «грунце». («Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии», акт. № 64). Застаецца толькі высветліць, у якім месцы на Нямізе знаходзіўся дзявочы праваслаўны манастыр, а з ім і храм. «Петропавловский-Минский, женский, совсем уничтоженный, там, где синагога», — піша ў сваёй працы Звярынскі («Материал для историко-топографического исследования о Православных монастырях в Российской империи», ст. 203, дакумент № 356), а менская «халодная» сінагога на Нямізе, паводле плана горада XIX—пачатку XX ст., знаходзілася на вуліцы Школьнай (зараз гэта пл. Свабоды, 17) і ад ацалелай да нашага часу царквы на Нямізе яе аддзяляла рака Няміга, некаторыя свецкія пабудовы.

А сінагогай праваслаўны храм стаў пасля 1727 г., калі ігумен мужчынскага Петрапаўлаўскага манастыра Гедыен Шышка аддаў менскім яўрэям на вечны водкуп манастырскія пляцы і дамы, каб хоць якнебудзь выправіць фінансавыя справы сваёй абіцелі (П. Афонский, «Триста лет в Православии», ст. 36). Дзявочага манастыра да таго часу ўжо не існавала, бо згадкі аб ім датычаць другой паловы XVIII ст.

Вынікае, што цяперашняя царква на Нямізе, вядомая пад назвай Петрапаўлаўскай, ніколі не складала адзінага архітэктурнага комплексу з праваслаўнымі манастырамі ў Мінску. Праваслаўнай Петрапаўлаўскай царквой была да паловы XVIII ст. «халодная» сінагога. Ацалелы на Нямізе храм стаў праваслаўным не раней за 1794 г. у выніку праводзімай Екацярынай II кампаніі па «ўз'яднанні» уніятаў з РПЦ. Менавіта таму грошы на яго рамонт былі адпушчаны толькі ў 1795 г., а не адразу пасля далучэння Беларусі да Расейскай імперыі, як гэта было ў іншых выпадках. Пасля рамонту 1795—1796 гг. царква пачала насіць назву праваслаўнага Екацярынінскага сабора.

Такім чынам, прыцязанні РПЦ на былы Екацярынінскі сабор (Петрапаўлаўскую альбо Жоўтую царкву) як на галоўную «цвярдыню Праваслаўя» (газ. «Чырвоная змена» № 29 (13509) падстаў не маюць. Гэтая царква будавалася уніятамі і ім належала. Што ж датычыць яе сапраўднай назвы, то верагодны два варыянты.

Як нагадвалася вышэй, у Менску існавала Петрапаўлаўская уніяцкая царква. Месца яе знаходжання дакладна невядома, але на Нямізе яе не было, бо на планах забудовы Менска XVIII—XIX стст. усе культавыя пабудовы раёна Нямігі можна атаясаміць з вядомымі на сённяшні дзень.

Больш аргументаванай з'яўляецца наступная версія. Адзіным уніяцкім храмам у Менску XVIII ст., які дакладна знаходзіўся на Нямізе, з'яўляецца царква Уваскрошання Хрыстова. Яна фігуруе ў спісе прыходаў Менскага уніяцкага дэканата за 1748 г. («Описание документов архива Западно-Русских униатских митрополитов», Т. 2, СПБ., 1907 г., дак. № 1501), і менавіта яе прыхаджанамі, пасля скасавання уніі ў 1838 г., узбуйнілі прыход Екацярынінскага сабора. Паводле апісання 1838 г. яна знаходзілася на замчышчы, была драўлянай, маленькай і ў вельмі дрэнным стане, таму пасля «ўз'яднання» яе разбурылі. Але згадваецца гэтая драўляная царква толькі пасля 1794 г., калі сапраўды старажытны уніяцкі храм Уваскрошання Хрыстова быў перароблены ў Екацярынінскі праваслаўны сабор. Непажадаўшых далучыцца да РПЦ уніятаў перасунулі ў драўляную капліцу, якая была перароблена пад царкву. Там, пад сваёй старой назвай, прыход існаваў да поўнага скасавання уніі ў 1838 г.

Уніяцкі храм на Нямізе чакае сваіх гаспадароў.

**С. ГОРБІК.**

г. Менск.

Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Уладзіміру Дзюбе з прычыны напаткаўшага яго гора—смерці МАЦІ.

